# РЭГІЁН
ГАРАДЗЕНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

№2(16)

Інфармацыйнае выданне
Распаўсюджваецца бясплатна




*Грамадскасць Гарадзеншчыны на магіле 40 паўстанцам 1863 г. у вёсцы Мінявічы Мастоўскага раёна*

# На Мастоўшчыне адзначылі 110 угодкі ад нараджэння Міхася Явара

**У гонар гадавіны нараджэння паэта адбыліся літаратурныя чытанні, ускладанне кветак на магіле паэта і святочны бардаўскі канцэрт на беразе Нёмана ў вёсцы Мінявічы, дзе жыў і пісаў Міхась Явар.**

13 ліпеня ўшанаваць паэта-патрыёта прыехалі госці з Мінску, Горадні, Зэльвы, Мастоў і Слоніму. Мерапрыемствы прымеркаваныя да 110 угодкаў нараджэння заходнебеларускага паэта было арганізавана актывістамі грамадскай ініцыятывы «За Еўрапейскую Мастоўшчыну» і прадстаўнікамі Руху "За Свабоду" у рамках кампаніі «Грамадзянская Гарадзеншчына». Урачыстасці прайшлі ў вёсках Лунна, Мінявічы і Падабраны Мастоўскага раёна, паведамляе прэс –служба ГІ "За Еўрапейскую Мастоўшчыну".

У вёсцы Мінявічы на магіле 40 удзельнікаў паўстання Кастуся Каліноўскага ў гонар 150 гадавіны тых падзей былі ўскладзены кветкі і запалены знічы.

"Вялікае значэнне творчасці Міхася Явара ўжо ў тым, што ягоныя творы ў змрочныя для Беларусі трыццатыя гады вучылі любіць Бацькаўшчыну", – адзначыў Алесь Белакоз.

Адзін з арганізатараў мерапрыемства Алег Пронскі падкрэсліў, што "важна памятаць нашых герояў, і тых хто змагаўся за беларускую справу ў далёкім 1863 годзе, і тых хто пісаў патрыятычныя вершы, як Міхась Явар, у змрочныя для Заходняй Беларусі 30 гады мінулага стагоддзя. Таму мы штогод ушаноўваем памяць беларускіх патрыётаў, тут на зямлі, дзе яны змагаліся за будучую беларускую дзяржаву, тут, дзе яны пісалі свае вершы, якімі натхнялі сваіх суайчыннікаў любіць і шанаваць Бацькаўшчыну".

Ушанавання памяці Міхася Явара сталі ўжо традыцыйным на Мастоўшчыне. Гадавіну пачалі адзначаць ў 2008 годзе грамадскасцю Мастоўшчыны з ініцыятывы заслужанага дзеяча культуры Беларусі, заснавальніка Гудзевіцкага дзяржаўнага літаратурна-этнаграфічнага музея Алеся Белакоза.

**Прэс-служба Грамадскай ініцыятывы «За Еўрапейскую Мастоўшчыну»**

# Іван Шэга будзе абскарджваць звальненьне ў судзе

**Галіна Абакунчык**

**Лекара вышэйшай катэгорыі Івана Шэгу са Слоніма звольнілі пасьля 30-гадовай працы траўматолягам. Адміністрацыя Слонімскага раённага шпіталя адмовілася працягнуць зь ім кантракт, не зважаючы на недахоп спэцыялістаў.**



*Урач, палітык - Іван Шэга*

Мясцовыя актывісты сабралі ў падтрымку Івана Шэгі сотні подпісаў і заяўляюць, што доктара звольнілі за актыўную грамадзкую і палітычную дзейнасьць.

*– Вас звольнілі ў дзень, калі вам споўнілася 60 гадоў. Ці было гэта для вас нечаканым?*

– У прынцыпе, я гатовы быў да гэтага. Але ў красавіку атрымаў ад галоўнага ўрача папярэджаньне, што кантракт са мной будзе прадоўжаны яшчэ на год. А пасьля, калі пайшоў у адпачынак і атрымаў іншы ліст, што мая праца заканчваецца, то вось гэта ўжо сталася нечаканасьцю. А так я разумеў, што яны скарыстаюцца такой магчымасьцю, каб кантракт са мной не прадоўжыць. Бо я ім крыху надакучыў.

*– Як менавіта надакучылі?*

– Мы тут маем актыўную пазыцыю, праводзім вялікую грамадзкую працу: апытвалі людзей аб праблемах сыстэмы аховы здароўя, пісалі свае прапановы, у тым ліку і галоўнаму ўрачу, склікалі канфэрэнцыю ў гэтых пытаньнях. Райвыканкаму давялося правесьці сустрэчу ў гэтых пытаньнях з грамадзкасьцю, з удзелам галоўнага ўрача, яны адказвалі на пытаньні. І гэта, пэўна, дадатковы клопат, які не патрэбны ні галоўнаму ўрачу, ні мясцовай уладзе. Ну, і акрамя таго я займаюся і іншай грамадзкай і палітычнай дзейнасьцю. Да прыкладу, Слонім – адзіны горад на Гарадзеншчыне, дзе сьвяткаваўся Дзень Волі – мы яго арганізавалі, не зважаючы на тое, якія тут захады рабіліся, каб гэтаму перашкодзіць. Гэта ўсё выклікае ва ўладаў раздражненьне, і яны вырашаюць гэтую праблему вельмі простым шляхам: няма чалавека – няма праблемы.

Слонім – адзіны горад на Гарадзеншчыне, дзе сьвяткаваўся Дзень Волі

*– Чаму, на вашу думку, спачатку прапаноўвалі працягнуць кантракт, а пасьля ўсё ж адмовілі?*

– Справа ў тым, што тут ня надта ёсьць каму працаваць. І галоўнаму лекару – як бы ён ні хацеў ад мяне пазбавіцца – усё ж такі неабходна арганізоўваць працу, каб людзей было каму прымаць. А па працы да мяне пытаньняў ніколі не было. Таму ён і вагаўся. А пасьля на яго, пэўна, націснулі, і тут ён ужо нічога зрабіць ня мог. Давялося яму выконваць чыйсьці загад.

*– Як адрэагавалі вашы калегі?*

– Учора мяне добра правялі – сабраліся ўсе, хто калісьці са мной працаваў. Павіншавалі мяне і пашкадавалі, што ўсё гэтак заканчваецца абы-як. Таксама многія прыходзілі хворыя разьвітацца, якія лячыліся ў мяне. Асабліва апошнімі днямі вельмі шмат людзей на прыёмах было – прыходзілі разьвітвацца людзі.

*– Ці будзеце спрабаваць займацца сваёй прафэсійнай дзейнасьцю, а таксама грамадзкай і палітычнай?*

– Па-першае, я паспрабую праз суд абскардзіць гэтае звальненьне, бо яно не зусім законнае. Былі ў мяне варыянты знайсьці працу ў Баранавічах, але і туды дабраліся: дамовіўся, што праца будзе, а праз два дні патэлефанавалі і сказалі, што ня маюць патрэбаў у маіх паслугах. Значыць, нехта даў каманду і туды, каб ня бралі. На суд таксама надта спадзявацца не даводзіцца, бо ў нас жа ўся сыстэма аднолькавая: тэлефоннае права – чыйсьці загад, і ўсё. Але спрабаваць трэба – трэба быць пасьлядоўным у гэтых пытаньнях. Калі ўжо на тое пайшло, то трэба ісьці да канца.

Галоўны лекар Слонімскага раённага шпіталя не пажадаў пракамэнтаваць звальненьне Івана Шэгі для Радыё Свабода: выслухаўшы пытаньне, ён моўчкі паклаў слухаўку.

**Svoboda.org**

# 80% за Лукашенко – цифра навсегда?

**Ровно 19 лет назад кандидат из провинции Александр Лукашенко победил во втором туре президентских выборов в Беларуси. С тех пор он не уступает кресло — и, похоже, не собирается уступать до последней физической возможности.**



*Аляксандр Лукашэнка 1994 г.*

Тогда, 10 июля 1994 года, триумфатор эффектно положил на лопатки премьера Вячеслава Кебича: 80,1% против 14,1%.Этот «неевропейский результат» в четыре пятых голосов с тех пор, видимо, довлеет, толкая на все новые «элегантные победы».

Показатель в 52-55% (примерно такую реальную поддержку фиксировала по итогам прежних выборов независимая социология), наверное, заткнул бы рты западникам, твердящим о диктатуре, но зато народ стал бы поговаривать, что Батька уже не тот. Рискованно. Рушится вся мифология.

## Народ устал от дежавю, но рыпаться не рискует

В итоге арифметика в Беларуси стала заложницей мифа о незаменимом народном президенте, против которого лишь «кучка отморозков». Хотя на самом деле общество, как показывают опросы загнанного в андеграунд НИСЭПИ, расколото. И многие явно устали от 19-летнего дежавю в телевизоре. Так, в марте лишь 36,5% белорусов были за то, чтобы действующий руководитель участвовал в выборах 2015 года.

Но при этом на баррикады белорусы отнюдь не рвутся, и официальный лидер может пока без паники планировать новую каденцию. Причем за неимением новых идей Лукашенко, как считают аналитики Belarus Security Blog (www.bsblog.info), вновь взялся раскручивать тему борьбы с коррупцией. Именно этот конек вытащил его на вершину власти в 94-м.

Между тем противники режима убеждены, что голоса на выборах давно не считаются. Так или иначе, но ситуация для оппозиции патовая: она не может сегодня взять власть ни через избирательную урну, ни через бойкот, ни через улицу.

Страна тем временем отстает в развитии и увязает в интеграционной паутине Кремля.

А теперь вот и население нутром почувствовало то, о чем уже не первый месяц твердят независимые экономисты: экономике резко поплохело. Вновь выстроились очереди в обменники. После финансового обвала 2011 года обыватель нервно реагирует даже на небольшой восходящий тренд доллара. И правящая верхушка оказалась в ловушке массовой психологии, боясь этот курс отпустить, хотя лишь мягкая девальвация, по убеждению экспертов, способна спасти коллапсирующий экспорт.

## Персоналистский режим стал тормозом для страны

Поскольку реформы, даже экономические, страшат, то официальному лидеру остается уповать лишь на российскую соску. А Москва за так не дает. Требует предприятия и уже ставит свою авиабазу в Лиде, на границе с ЕС и НАТО.

«Российская авиабаза — важный рубеж, после которого Лукашенко уже трудно говорить: я России ничего не сдал», — считает Валерий Карбалевич, эксперт аналитического центра «Стратегия» (Минск).

В итоге белорусы в один прекрасный день могут проснуться в стране, где хозяйничают российские олигархи и военные. Да и от страны может остаться лишь название. А то, что упорно загоняются внутрь экономические болячки, печатаются на радость простому электорату пустые деньги, грозит новым обвалом в духе 2011 года.

**Начало. Окончание на стр.8.**

# Чиновникам безразлично мнение слон

## Немного истории

Несколько месяцев назад на адрес Администрации Президента РБ, Палаты представителей, РУП «Белпочта» и РУП «Белсоюзпечать» было направлено коллективное обращение с более чем 300 подписями слонимчан в поддержку “Газеты Слонімскай”.

Жители нашего города обратились в различные инстанции с целью добиться справедливости. В частности, слонимчане просили создать для “Газеты Слонімскай” равные условия деятельности и включить её в систему распространения через РУП «Белпочта», а также в реализацию через киоски РУП «Белсоюзпечать».

Дело в том, что в нашем городе издаются две местные газеты: “Слонімскі веснік” и “Газета Слонімская”. Газета “Слонімскі веснік” свободно продаётся в киосках «Белсоюзпечати», и при желании на неё можно оформить подписку в РУП «Белпочта».

А вот вторая газета — “Газета Слонімская” — в киосках «Белсоюзпечати» не продается, и оформить подписку на неё через РУП «Белпочта» невозможно.

**Не понятно, кто и почему лишил нас возможности покупать “Газету Слонімскую” в киосках «Белсоюзпечати» и оформлять на нее подписку через систему РУП «Белпочта», которая в Беларуси является монополистом в сфере данных услуг.**

## Прошло 7 лет...

Напомним, что накануне президентских выборов 2006 года «Газета Слонімская» и ряд других независимых печатных изданий Беларуси по неким причинам были вычеркнуты из списка централизованной подписки РУП «Белпочта». Однако для чиновников этого показалось мало, и, чтобы ёще более осложнить работу редакции “Газеты Слонімскай”, власти начали чинить различные преграды в её работе. Возникла проблема с помещением редакции, местные чиновники не предоставляют корреспондентам газеты информацию о своей деятельности, отказывают в аккредитации журналистам при местном исполнительном комитете и т.д. Власти применяют различные способы давления на независимые СМИ, которым постоянно приходится искать способы выживания.

На протяжении ряда этих лет читатели и подписчики “Газеты Слонімскай” неоднократно становились на защиту газеты. Слонимчане обращались в различные инстанции с требованием прекратить чинить различные преграды в работе газеты, в том числе просили обеспечить возможность подписаться на газету на почте и свободно её покупать в киосках «Белсоюзпечати».

Однако до сих пор глас народа так и не был услышан. Похоже на то, что чиновникам на мнение людей наплевать.

Газета Слонімская

В СПК «ДРАПОВО» МАССОВО СКУПАЛИ СВИНЕЙ

*Першая старонка Газеты Слонімскай*

## Ответы власти

На просьбу граждан о включении газеты в систему распространения через РУП «Белпочта» его руководство уже который год даёт один и тот же ответ: ссылаясь на закон о том, что граждане и юридические лица свободны в заключении договора, оно считает нецелесообразным включение в подписной каталог “Газеты Слонімскай”. То есть, с кем хотят, заключают договор, а с кем не хотят, не заключают его. Просьбы людей их мало интересуют.

А вот государственные СМИ власти всячески поддерживают. И для того, чтобы повысить их тираж и количество подписчиков, в учреждениях и на предприятиях нашего района периодически проводится добровольно-принудительная подписка на газету «Слонімскі веснік» и

# онимчан!

другие государственные издания.

Давайте действовать сообща

Однако, как говорится, под лежачий камень вода не течёт. Поэтому если мы будем молчать и терпеть чиновничий беспредел, то чиновники и дальше будут за нас решать, какие газеты нам выписывать, что читать и как правильно думать.

Каждый может внести свой вклад в защиту свободы слова и печати, высказаться в поддержку “Газеты Слонімскай”. Одним из способов может быть написание письменного обращения от себя лично или от группы людей в различные государственные инстанции с просьбой включить «Газету Слонімскую» в систему распространения РУП «Белпочта», а также в реализацию ее через киоски РУП «Белсоюзпечать», разрешить аккредитацию журналистов газеты при Слонимском райисполкоме и Совете депутатов, не препятствовать журналистам в получении различной информации и не чинить другие преграды в работе «Газеты Слонімскай.

## Обращение

**Письменное обращение необходимо выслать заказным письмом в Администрацию Президента (ул. К. Маркса, 38, г. Минск, 220016), копию — в РУП «Белпочта» (пр. Независимости, 10, г. Минск-50, 220050), копию — в Министерство информации РБ (пр. Победителей, 11, г. Минск, 220004), копию — в РУП «Белсоюзпечать» (ул. Володарского, 16, г. Минск, 220050) и другие инстанции по вашему усмотрению.**

Не позднее чем через месяц вам должны будут прислать письменные ответы на ваше обращение.

Справедливость есть – так добьёмся же её ВМЕСТЕ!

**Контакты для обратной связи, пожеланий и предложений:**
**тел. моб. 8(029)327-63-01 (Велком)**
**e-mail: slonim2008@gmail.com**
**Подробности на сайтах:**
**www.slonimblog.net, http://www.gs.by**

Материал подготовлен
в рамках кампании
“Гражданская Гродненщина”

# “Гарадзеншчына: краіна каталікаў і кантрабандыстаў”

**Аляксей Табяшэўскі**

**Такую назву мае артыкул, апублікаваны на сайце Belarus Digest.**




BD гэта праект, які мае на мэце прадстаўляць англамоўнаму свету якасную інфармацыю пра Беларусь ды перамагаць міфы. Прапануем чытачам “ТС” скарочаны змест тэкста. Выказвайцеся ў каментарах, наколькі праўдзіва прадставіў аўтар замежнікам Гарадзеншчыну. Ужо ў самым пачатку аўтар адзначае, што Гарадзеншчына, з прычыны культурных і гістарычных асаблівасцяў, заўсёды была аб’ектам асаблівай увагі з боку ўлад, тут жыве большая частка беларускіх каталікоў, а таксама гэты рэгіён выказаў найбольшую падтрымку Зянону Пазняку ў выбарах 1994 года.

Аўтар тэксту, даследчык Інстытута палітычных даследванняў “Палітычная сфера” Вадзім Смок, жыве ў Мінску, але сам паходзіць з Гродна. Далей у тэксце ён тлумачыць замежнікам, што дваццаць год у складзе міжваеннай Польшчы мела істотны ўплыў на жыццё і самаідэнтыфікацыю людзей. “Заходнікі” ўсё яшчэ маюць імідж непітушчых, цяжка працуючых і рэлігійных, у адрозненні ад саветызаваных і русіфікаваных “усходнікаў”. З гэтым звязаны савецкі вобраз насельнікаў Заходняй Беларусі як “ненадзейных элементаў”. Аўтар лічыць, што ён захаваўся да сёння: для беларускіх улад Гарадзеншчына – “нялёгкі” рэгіён. Разам з тым даследчык адзначае, што, як і ва ўсіх іншых абласцях, партыі і грамадскія арганізацыі амаль цалкам задушаныя. Адзінай дзеючай арганізацыяй спадар Смок называе “Трэці сектар”. Асобна ў тэксце згадваюцца кіраўнікі вобласці. Аўтар звяртае ўвагу на тое, што Уладзімір Саўчанка, які ў 2010 годзе, па словах прэзідэнта “страціў пачуццё адказнасці”, а разам з ім і пасаду, праз нейкі час усплыў у якасці шэфа аргакамбіната Мачулішчы, аднога з найбуйнейшых у краіне. Даследчык робіць выснову, што сяброўства і зямляцтва з прэзідэнтам – добры рэсурс, які нават з адстаўкі дазваляе выцягнуць максімум карысці. Пра Сямёна Шапіру аўтар коратка піша, што той прыйшоў на пасаду з добрай рэпутацыяй, але яго словы пра неабходнасць аховы спадчыны, развіццё турызмы і іншыя засталіся толькі словамі, а канчаткова імідж быў сапсаваны рэпрэсіямі ў ГрДУ. Больш за 1/3 тэкста займае апісанне “Краіны Кантрабандыстаў” (The Land of Smugglers). Аўтар пачынае з таго, што называе Заходнюю Беларусь менш індустрыялізаванай, чым Усходнюю, але затое з лепшай аграрнай гаспадаркай (вынік лепшай працоўнай этыкі). Турыстычны патэнцыял – найбольшая ў Беларусі гістарычная і культурная спадчына – выкарыстоўваецца кепска, праз нягеглую палітыку дзяржавы. Відаць, з гэтым нейкім чынам звязаны спосаб заробку, які ўжо не першае дзесяцігоддзе дазваляе весці камфортнае жыццё многім жыхарам вобласці. Маецца на ўвазе акурат кантрабанда. Кантрабандысты маюць сваю ўласную культуру ўключна са слэнгам, легендамі і байкамі, кодэксам паводзін. Аўтар тлумачыць еўрапейцам, што тыя могуць купіць у сваіх краінах танныя нелегальныя цыгарэты акурат дзякуючы мужным людзяць, што ездзяць на мяжу (як) на працу. Гэтая асаблівасць лакальнай эканомікі паказвае сур’ёзныя праблемы з развіццём на мясцовым узроўні.

**http://www.t-styl.info**

# Змяняць нашы дзеі

Лявон Карповіч, вёска Луна

**Так склалася, што большую частку свайго жыцця я адпрацаваў настаўнікам. А значыць, у працы над сабой і з дзецьмі, бо настаўнікам можна быць да той пары, пакуль вучышся сам.**



*Настаўнік, Лявон Карповіч з вёскі Луна Мастоўскага раёна*

Першапачаткова я атрымаў адукацыю механіка сельскай гаспадаркі ў Жыровіцкім тэхнікуме і паглыбіў яе ў Беларускім інстытуце механізацыі і электрыфікацыі. Нават два гады адпрацаваў механікам аўтапарку, але лёс неўмольна штурхаў на настаўніцкі шлях. Ужо ў тэхнікуме даводзілася замяняць настаўніка матэматыкі, калі таму трэба было некуды сысці. У арміі 2,5 гады займаўся навучаннем і выхаваннем салдат у знакамітых Печах. Нарэшце апынуўся ў школе, яшчэ не маючы педагагічнай адукацыі. Таму адначасова з інстытутам механізацыі скончыў Педагагічны інстытут імя Янкі Купалы ў Гародні. Вучыў дзяцей па-расейску, размаўляў на расейскай мове, быў камуніста-ідэалістам. Гэта значыць верыў, што мы будуем светлую будучыню чалавецтва, а ў Амерыцы страляюць неграў, прастытуцыя і галеча. Карацей гаворачы – манкурт на ўсе сто. Скінуць гэтую скураную абалонку з галавы было вельмі не проста. Першы штуршок, мабыць, быў ад Андрэя Платонава. Яго «Чавянгур» проста ўвёў у шок. Аказваецца, мелі рацыю марксісты-ленінцы: ісціна пазнаваемая. Далей было знаёмства з Алесем Белакозам і першы рашучы крок да вызвалення – выхад з КПСС згодна пададзенай заяве. Наступны крок быў заканамерны – удзел у працы Беларускага Народнага Фронту, які працягваецца да сёння ў Кансэрватыўна-Хрысціянскай Партыі БНФ. Карэннае змяненне поглядаў працягвалася пад уплывам новых сяброў, удзелу ў фронтаўскай працы, азнаямленнем з працай грамадскіх арганізацый, прыватнага і культурнага жыцця Чыкага (ездзіў, як пераможца конкурсу), наведвання Рыму, Венецыі, Парыжу, Вільні, шматразовых наведванняў Польшчы ў якасьці «чаўнака» і ўдзельніка курсаў і семінараў па авалодванню інтэрактыўнай мэтодыкай выкладання, кнігаў, сустрэчаў, выклікаў у пракуратуру і да следчых і г.д. Аж даператрусу перад выбарамі 2006 г. з кафіскацыяй архіву. Гэта значыць, пад уплывам жыцця.

**Усё гэта прывяло да пэўных перакананняў.**

Упэўнены ў тым, што ў створаным Богам свеце ўвесь час ідзе барацьба паміж Дабром і Злом, як вакол чалавека, так і ў яго душы. І, як казаў Станіслаў Ежы Лец: «У чалавека няма выбару – ён павінен быць чалавекам». Значыць тварыць дабро. Тут пачынаюцца ўсе праблемы. Перш за ўсё, як адрозніць дабро ад зла? Зрабіць гэта бывае нялёгка. Бо калі дабру не трэба прытварацца, то зло найчасцей прыкідваецца дабром. Таму мне так падабаецца прыпавесць пра чалавека, які сваім жыццём заслужыў на тры просьбы да Бога. І ён папрасіў: «Божа, дай мне магчымасьць тварыць дабро! Божа, дай мне сілы змагацца са злом! Божа, дай мне мудрасць арозніваць першае ад другога!»

Адной з пачварных спраў камуністычнага строю было стварэнне новай адмены людзей – людзей без сумлення. Жыццё без сумлення вызваляе ад пакутаў, як жыццё без розуму вызваляе ад неабходнасці думаць. Чалавек губляе душу і становіцца зброяй д'ябла. Лукашызм вылучае людзей без сумлення як эліту. Таму гэта Зло, таму трэба з ім змагацца.

Даволі часта людзі не могуць дамовіцца, бо ў аднолькавых словах бачаць розны сэнс. Тады размова ідзе, як сляпога з глухім. Таму некалькі слоў аб, можа, спрэчным значэнні некаторых паняццяў у маім разуменні. Моднае цяпер слова – ідэалогія… Ідэалогія – сістэма поглядаў, уяўлен-

# на лепшыя...

няў у сведамасці, якія выражаюць адносіны да рэчаіснасці. Палітыка – дзейнасць, вызначаная ідэалогіяй і інтарэсамі. Патрыятызм, ён жа нацыялізм – усведамленне прыналежнасці да народу, пачуццё грамадзянскага абавязку, адданасць Радзіме, любоў да Бацькаўшчыны, яе культуры і народу. Народ – частка насельніцтва краіны, якая зяўляецца носьбітам нацыянальнай ідэі. І, нарэшце, нацыянальная ідэя ў маёй сведамасці – сакральны для нашага народу дрэвадуб, ствалом якога з'яўляецца сам народ, каранямі – хрысціянскія каштоўнасці, кронай з'яўляецца незалежная краіна ЛітвінаБеларусь з неад'емнымі вызначальнымі каштоўнасцямі: беларускай мовай, Бел-Чырвона-Белым сцягам, Гербам «Пагоня» і Гімнам «Магутны Божа». **Незалежнасць – гэта мова, сімвалы, дзяржава, храм, а не газ і не нафта…**

Перасэнсаванне каштоўнасцей прывяло мяне да крытычнага аналізу стану агульнаадукацыйнай школы ў Беларусі. З чым можна параўнаць сённяшні стан школы на Беларусі? На мой погляд, найбольшае падабенства з савецкай сталоўкай, дзе з дрэнных прадуктаў настаўнік-кухар гатуе шкодную для душы і здароўя ежу і прымушае яе есці. Дык будзеш есці і без прымусу, бо іншай няма. Праз пэўны час усе становяцца хворымі і фізічна, і духова.

Было б несправядліва казаць, што ўсе школы такія. Не, нясуць яшчэ на сваіх плячах настаўнікі школы-макдональдсы. Там другі тэмп жыцця. І, хоць ежа не нашмат лепшай якасці, але з забаўкай. Таму ў школу-макдональдс дзеці ідуць з ахвотай і ад настаўніка залежыць ступень калецтва.

Самыя лепшыя (мізерная колькасць) – гэта школы-агароды, дзе настаўнік спачатку рыхтуе глебу, потым сее, даглядае кволыя ўсходы, ахінае ласкаю і любоўю. Шчаслівыя дзеці, якім пашчасціла патрапіць у такую школу, якая існуе не дзякуючы, а насуперак…

Але ў маёй краіне я мару не пра такую школу. **Я мару пра школу-сад, дзе настаўнік – садоўнік.** Ён з даручэння народу мае штодзённы доступ да самага дарагога нацыянальнага багацця – душы, розуму, думак, пачуццяў дзяцей. Ніякая сістэма не здольная пракантраляваць гэты доступ. Усведамляючы, што будучыня належыць моладзі, відавочнай ёсць гістарычная роля настаўніка, як праектыроўшчыка будучыні. **Сёння ў нацыянальна сведамага настаўніка застаецца адзін шлях – шлях грамадзянскай адукацыі.** Абавязкова трэба абмяркоўваць усе пытанні, застаючыся вонкава нейтральным, але накіроўваючы і дапамагаючы кожнаму выхаванцу фармаваць асабістую думку па розным пытанням, разуменне права кожнага на выбар і прынясце рашэння.

5 тысячаў гадоў назад Канфуцый казаў, што для поўнага шчасця чалавеку трэба ведаць слаўную гісторыю свайго народу. Так Канфуцый падштурхнуў мяне да адкрыцця, пазнання, спагады і разумення мінулага маёй краіны. І яшчэ. Упершыню папаўшы за «кардон» у Польшчу гадоў 30 таму, я ад свайго стрыечнага брата з Легніцы прывёз турыстычны вымпел Польскага Таварыства Турыстычна-Краязнаўчага з надпісам: «Толькі пазнаўшы свой край можна горача яго любіць і плённа для яго працаваць». Палякі разумелі гэта заўсёды. Я зразумеў нядаўна. Гісторыя беларускай дзяржавы Вялікага Княства Літоўскага захапіла мяне ад першай сустрэчы і не адпускае… Каб больш поўна адлюстраваць гісторыю Бацькаўшчыны, мною быў рэалізаваны праект па выпуску серыі з больш як 40 тэматычных паштовых канвертаў, прысвечаных усім Вялікім Князям ВКЛ, паўстанцам, пісьменнікам, сімволіцы, БНР… Прайшоўшы пошту, гэтыя канверты сталі філатэлістычным матэрыялам і патрапілі ў калекцыі філатэлістаў. Філатэлія гэта тое, чым варта і цікава займацца. **Вялікая просьба да нашых мастакоў, выдаўцоў – каб рабілі рэпрадукцыі сваіх твораў у выглядзе паштовак.** Мастак Марачкін намаляваў карціну «Плошча Каліноўскага». Колькі народу ўбачыць яе? А паштоўку купілі б дзясяткі тысяч і не толькі ў Беларусі.

Сучасны стан Беларусі для мяне адлюстроўваецца станам Гарадзенскай Каложы. Храм – вароты ў неба. Пабудаваны ў 12 ст., калі закладалася беларуская дзяржаўнасць, ён падзяліў лёс краіны. Палова Каложы ў 1853 г., не вытрымаўшы здзекаў акупацыі, абвалілася ў Нёман. Толькі ў 1889 г. да ацалеўшай часткі дабудавалі драўляную і накрылі дахам. Так і стаіць напалову мураваная, напалову драўляная… у сваёй прыгажосці, велічы і калецтве.

Мая бабуля, калі ёй было ўжо за 80 гадоў, сказала: «Не хачу паміраць, бо ў труне працаваць немагчыма». **Характэрная рыса нашага народа – працатворчасць.** Ці не прыгожае, ці не галоўнае чалавечае жаданне?

Калі казаць аб тым, **чаго нам, беларусам, найбольш не хапае – дык гэта салідарнасці.** Бывае, што праява салідарнасці не патрабуе ніякіх высілкаў і каштуе вельмі танна. Напрыклад, як проста праявіць салідарнасць, падпісаўшыся на беларускамоўную газету «Наша слова». Але… Кажуць, у старажытныя часы нашы продкі на Дзень Св.Юр'я тапілі цмока ў Нёмне, каб утапіць зло. Цмок тануў, а зло…

Нехта разумны сказаў: «Калі што вельмі жадаеш, то абавязкова споўніцца. Калі не споўніцца – слаба жадаў». **Для некатарых жаданняў няма і перашкодаў. Хто можа перашкодзіць любіць Радзіму, кахаць жанчыну, быць добрым?..**

**«Божа, поўны міласці і ласкі, памажы і нам змяняць нашы дзеі на лепшыя і заўжды іх удасканальваць».**

# 80% за Лукашенко – цифра навсегда?

**Окончание. Начало на стр.3.**

Но даже если удастся избежать финансово-экономической катастрофы (та же Россия не заинтересована в хаосе и бунтах на своем западном плацдарме), то деградация Беларуси, потеря страной конкурентоспособности в глобальном мире для многих аналитиков выглядит практически неизбежной при нынешнем правлении.

Вот так созданная Лукашенко модель, которая поначалу многим казалась чудесным ремейком советского светлого прошлого, стала тормозом для страны.

Публицист Светлана Калинкина убеждена, что Лукашенко, тем не менее, уходит в историю. Хотя сам он, скорее всего, думает в духе анекдота о Рабиновиче: не дождетесь!

И все же: каким останется Лукашенко в истории? Валерий Карбалевич в комментарии для Naviny.by отметил: оценки историков, экспертов, с одной стороны, и массового сознания, с другой, могут существенно разниться. Так в России, хотя ее руководство (может, и скрепя сердце) все же осудило сталинизм, образ усатого вождя, при котором «был порядок», популярен среди простого (и не только простого) люда.

По мнению Карбалевича, постфактум эксперты дадут деятельности Лукашенко преимущественно негативную оценку: затормозил развитие страны, изолировал ее от Запада, законсервировал устаревшую социальную модель.

Образ же Лукашенко в массовом сознании будет в перспективе зависеть от того, удастся ли ему, в частности, «выкрутиться от экономического падения на манер 2011 года», сказал политолог. Если да, считает собеседник, то по отношению к первому президенту в обществе останется серьезный раскол, симпатии значительной части белорусов сохранятся, ведь патерналистская модель многим по душе.

## Делукашенизация неизбежна

В 1994 году Лукашенко «попал в архетип белорусов», в их представления о лидере нации, считает политический аналитик Юрий Дракохруст. Соответственно, отметил он в комментарии для Naviny.by, потенциальному новому лидеру критически важно «понять, как устроена душа белоруса».

При этом наивно ожидать, что вдруг «выйдет из Беловежской пущи богатырь», добавляет собеседник. Юрий Дракохруст прогнозирует, что наибольшие шансы занять кресло после Лукашенко — у фигуры, которая так или иначе уже присутствовала в публичном пространстве, «засветилась предварительно».

Да, но если это окажется преемник из окружения?

Валерий Карбалевич к страшилкам о якобы почти неизбежном приходе Лукашенко-2 относится скептически. Он убежден, что даже если власть подхватят деятели из близкого круга, то они будут обречены на перемены. Аналитик напоминает: в СССР после Сталина его же бывшие соратники были вынуждены заняться десталинизацией.

Беларусь станет более демократичной, пусть и не совсем на манер стран ЕС. С последним же отношения неизбежно улучшатся, будет восстановлен геополитический баланс. Отсюда еще один вывод Карбалевича: угроза российской экспансии не фатальна.

Юрий Дракохруст также не разделяет фатализма тех, кто пророчит: как только власть выскользнет из рук первого президента, ее тут же подберет Кремль. По мнению аналитика, в стране неизбежно начнутся процессы, которыми будет весьма проблематично дирижировать из Москвы, сколько бы та ни имела нефтедолларов и баз. «Управляемых землетрясений, в том числе и политических, не бывает», — резюмирует собеседник Naviny.by.

Добавлю, что политическое землетрясение — вообще не лучший способ смены власти. Но беда в том, что персоналистские режимы не умеют меняться плавно и культурно.

**naviny.by**



## Чем полезен морковный сок?

**Свежеприготовленный сок из моркови по праву считается натуральным эликсиром: он способствует повышению иммунитета и жизненного тонуса, нормализации обменных процессов и массы тела, а также успокоению нервной системы и продлению молодости.**

Можно сделать напиток, используя соковыжималку, или же сначала измельчить корнеплоды блендером либо миксером, после чего из полученного пюре через марлю отжать сок. Чтоб придать напитку более приятный привкус, достаточно добавить в него немного лимонной кислоты и 10%-го сахарного сиропа.

Наиболее оптимальная дневная доза морковного фреша, которая принесет организму заметную пользу, составляет 1-2 стакана. Правда, в зависимости от здоровья того или иного человека, в день можно выпивать от 0,5 до 3 литров этого напитка. А для лучшего усвоения организмом каротина, который является жирорастворимым витамином, перед употреблением морковного сока рекомендуют съесть что-нибудь жирное – салат с растительным маслом. А напиток из свежевыжатой моркови и сельдерея считается одним из наиболее эффективных средств для укрепления иммунной системы.

**zdorovie.com**

Інфармацыйнае выданне РЭГIЁН

Надрукавана ў друкарні ААТ **«Смоленская печать»** г. Смоленск, ул. Ломоносова д.3

Распаўсюджваецца бясплатна
Наклад 299 асобнікаў

Адказны рэдактар: **Алесь Зарэмбюк**